Гродна
№11 (540),
31 мая 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





# КАЛІ СВЯТЫ ДУХ У ДЗЕЯННІ



ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ ТАМУ ГРОДЗЕНСКАЯ ПАРАФІЯ СВЯТОГА ДУХА Ў МІКРАРАЁНЕ АЛЬШАНКА НАЛІЧВАЛА КАЛЯ 600 ВЕРНІКАЎ ДЫ БЯЗМЕЖНАЕ ПОЛЕ, ДЗЕ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ УДЗЯЛЯЎ ПРАГНУЧЫМ ЦЕЛА ХРЫСТА. СЁЛЕТА, У 5-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ АСВЯЧЭННЯ ЗЯМЛІ ПАД БУДАЎНІЦТВА КАСЦЁЛА, ПАРАФІЯ НАЛІЧВАЕ ЎЖО 5 ТЫСЯЧ ВЕРНІКАЎ. ПАСТУПОВА “РАСТУЦЬ” СЦЕНЫ, КАБ ПЕРАЎТВАРЫЦЦА Ў МАГУТНУЮ СВЯТЫНЮ.

● працяг на с. 3



“Хрысціянства без Духа – гэта маралізм без радасці; з Духам – жыццё”. Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### НЯДЗЕЛЯ СПАСЛАННЯ СВЯТОГА ДУХА
**Ян 7, 37–39**

У апошні вялікі дзень свята Езус стаў і, заклікаючы, сказаў: "Хто прагне, няхай прыйдзе да Мяне і п'е. Хто верыць ў Мяне, у таго, як сказана ў Пісанні, з улоння пацякуць рэкі вады жывой". Гэта сказаў Ён пра Духа, якога павінны былі прыняць тыя, хто паверыў у Яго: бо яшчэ не было Святога Духа, таму што Езус яшчэ не ўславіўся.

### ДАЦЬ СЯБЕ НАКІРОЎВАЦЬ

Падзеі, звязаныя з мукай Пана Езуса, настолькі ўзрушылі вучняў, што нават у дзень уваскрасення яны засталіся адгароджанымі ад свету. Усе іх надзеі развaліліся ў адзін момант. Той, з кім звязвалі будучыню, быў забіты.

У рэальнасць безнадзейнасці ўваходзіць Езус. Ён прыносіць спалоханым вучням дар супакою, адрозны ад таго, які мог прапанаваць ім свет. Гэты супакой звязаны з дарам Святога Духа. Ён будзе іх накіроўваць і падтрымліваць у даручанай місіі. Ён учыніць іх здольнымі рабіць тое, што неаднаразова рабіў Езус, абураючы тых, хто крычаў: "Хто ён такі, што блюзнерыць? Хто можа адпускаць грахі, калі не сам Бог?" (Лк 5, 21). Такім чынам, з гэтага часу вучні будуць удзельнічаць у таямніцы Бога, які вызваляе чалавека ад граху і смерці, адорваючы вечным жыццём.

Кожны з нас паклiканы да таго, каб дазволіць Святому Духу накіроўваць сябе і перамяняць. Ён не з'яўляецца падарункам, абяцаным толькі выбраным. Бог у сваёй шчодрасці адпраўляе Святога Духа ў сэрцы ўсіх нас. Трэба толькі адкрыцца на Яго дары: мудрасць, розум, умеласць, раду, мужнасць, набожнасць і боязь Божую. Дазволім Яму дзейнічаць у нас!

**Ці малюся да Святога Духа?**

**Як дазваляю Святому Духу накіроўваць мяне?**

### УРАЧЫСТАСЦЬ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦЫ
**Ян 3, 16–18**

Езус сказаў Нікадэму: "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго. Хто верыць у Яго, не будзе асуджаны, а хто не верыць, той ужо асуджаны, таму што не паверыў у імя Адзінароднага Сына Божага".

### ЗМЯНЯЦЬ АБЛІЧЧА ЗЯМЛІ

Бог для нас вялікая таямніца! Часам спрабуем няёмка прыадкрыць яе. Аднак самі не здолеем дайсці да Бога, таму Ён у сваёй пяшчоце прыходзіць да нас і паказвае сваю любоў і сваю таямніцу наглядна і адчувальна ў асобе Езуса.

Бог – гэта супольнасць Асоб. Айцец дае ў дар Сына, каб вярнуў нас, згубленых, да Яго. Езус не дзейнічае самастойна, але ў моцы Духа. Быў зачаты Яго сілай ва ўлонні Марыі. Напоўнены Духам у момант хрышчэння ў Іардане. У сіле Духа Ён накіраваўся ў пустыню, каб паказаць, як змагацца са спакусамі злога. Здзяйсняў цуды і навучаў сілай таго ж Духа. І, нарэшце, аддаў Духа, паміраючы на крыжы.

Дух, які спадарожнічае нам з дня хросту, нагадвае пра ўсё, што перажыў і чаму навучыў Езус. Ён фарміруе думкі, пачуцці і адносіны, каб мы ўсё больш і больш станавіліся падобныя да Сына. Дух усклікае ў нас: "Абба Ойча!", – каб у сваіх сэрцах перажывалі сыноўскую любоў да Бога.

Стварыцель моцна палюбіў свет, палюбіў кожнага чалавека! Мы не павінны баяцца разам з Ім аддаваць сябе і змяняць аблічча гэтай зямлі, таму што Божае жаданне заключаецца ў тым, каб збаўляць, захоўваць, ратаваць, а не асуджаць ці знішчаць. Бог ёсць бязмежная Любоў (параўн. 1 Ян 4, 16).

**Ці рэалізую сябе, адкрываючыся на іншага чалавека?**

**Як прымаю праўду пра Бога, адзінага ў Тройцы?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Надзейны Праваднік

***Святога Духа называюць самай загадкавай Асобай Найсвяцейшай Тройцы. У Старым Запавеце Яго апісваюць як "руах", альбо подых, вецер. Святога Духа нельга ўбачыць, але Ён эфектыўна дзейнічае і змяняе рэчаіснасць вакол нас.***

Езус Хрыстус, адыходзячы з гэтага свету, не хацеў пакідаць людзей сіротамі. Сказаў, што, нягледзячы на свой адыход, пасылае Святога Духа, каб суцешыў нас, растлумачыў праўду пра Яго і Айца і зрабіў здольнымі выканаць сваё пакліканне.

Святы Дух з'яўляецца, перш за ўсё, Праваднiком, таму што дае нам святло і праніклівасць пры прыняцці важных рашэнняў. Падказвае, што павінны рабіць і ў якім кірунку ісці. Дзякуючы Яго падтрымцы можам маліцца і адчуваць унутраную радасць і супакой, нават калі раней былі поўныя клопатаў пра паўсядзённыя справы і жыццёвыя рашэнні.

Кожны сутыкаецца з рознымі цяжкасцямі і няўпэўненасцю ў заўтрашнім дні, але Святы Дух заўсёды нам дапамагае і ўказвае добры, правільны напрамак. Часта даведваемся пра Яго моц толькі праз некаторы час, але можам таксама штодня адчуваць Яго "ўмяшанне" ў наша жыццё. Распазнанне Святога Духа палягае вячэрні роздум пра мінулы дзень, калі задумваемся, як і дзе Ён дапамог нам. Аднак часцей за ўсё патрабуецца час, каб заўважыць Яго падтрымку ў сваёй штодзённасці.

Святы Дух найлепш распазнаецца па добрых пладах Яго дзеяння. Часам гэта суцяшэнне ў часы сумненняў. Іншым разам хтосьці з'яўляецца з ніадкуль і працягвае руку дапамогі. Можам заўважыць, што Святы Дух "падсоўвае" нам розныя думкі, якія часта спачатку не разумеем. Але затым з'яўляецца хтосьці, хто тлумачыць іх ці садзейнічае ў рэалізацыі планаў, якія змяняюць наша жыццё да лепшага і набліжаюць да Бога.

Гэта Святы Дух вядзе да Крыніцы Жыцця. Без Яго не можам нічога зрабіць. Ён распальвае нашы сэрцы жаданнем быць побач з Богам і дае мужнасць, каб накіроўвацца за Ім. Ён дае сілы, каб сведчыць пра Хрыста сярод знаёмых і сяброў, а таксама суцішае эмоцыі пры выкананні адказных заданняў. Акрамя таго, дапамагае пазбавіцца ад ілюзій адносна сябе і іншых людзей. Дае пакору, без якой было б цяжка ісці далей па жыцці.

**Дарагія Чытачы!**

**Перажываючы чарговую Пяцідзесятніцу, давайце запросім Святога Духа стаць нашым жыццёвым Праваднiком. Просьма Яго, асабліва ў гэты цяжкі час пандэміі каранавіруса, каб дыхнуў на ўвесь свет сваім пяшчотным цяплом супакою і асвяжальным падбадзёрваннем надзеі.**

*Праз прызму пантыфікату святога Папы*

# Ян Павел II і Святы Дух



> **"Усклікаю з глыбіні гэтага Тысячагоддзя, [...] усклікаю разам з усімі вамі: Няхай сыдзе Дух Твой! Няхай сыдзе Дух Твой і адновіць аблічча зямлі. Гэтай зямлі!"**
> (Варшава, 2 чэрвеня 1979 г.)

Менавіта Святому Духу, праз якога кожны вернік узмацняецца як сведка Хрыста, папа Ян Павел II прысвяціў сваю 5-ую энцыкліку. Яе назва гучыць як "Dominum et vivificantem" ("Пан і Жыватворца"), раскрывае ролю Святога Духа ў жыцці Касцёла і свету. Энцыкліку Святы Айцец падпісаў 18 мая 1986 года – у свята Спаслання Святога Духа.

У папскім дакуменце закранаецца тэма праўды. Праўды аб чалавеку і свеце, што з'яўляецца вынікам прысутнасці Святога Духа ў сэрцы кожнага з нас. Духа, які на працягу 2-ух тысячагоддзяў ажыўляў веру Касцёла і робіць гэта цяпер.

Сам св. Ян Павел II з дзяцінства маліўся да Святога Духа і, напэўна, не раз адчуў сэрцам і розумам прысутнасць Боскага Суцяшыцеля ў жыцці. Напісанне ж энцыклікі адносіў у пэўнай ступені да заслуг свайго таты. Будучы ўжо на пасадзе намесніка св. Пятра, так успамінаў: "Ва ўзросце 10-12 гадоў я быў міністрантам. Але мушу прызнацца, не вельмі стараным. Калі мой бацька гэта заўважыў, сказаў аднойчы: «Ты не надта добры міністрант. Недастаткова молішся да Святога Духа». І паказаў мне нейкую малітву. [...] Гэта быў важны духоўны ўрок, больш трывалы і мацнейшы за ўсё, што я мог бы атрымаць з чытання ці навучання, якое распачаў... Вынікам гэтага ўрока з дзяцінства з'яўляецца мая энцыкліка аб Святым Духу".

Такім важным момантам са свайго дзяцінства Святы Айцец аднойчы падзяліўся з маладзёнамі. Гэта адбылося падчас яго першай пілігрымкі на радзіму ў Польшчу ў 1979 годзе: "Так, як некалі родны бацька даў мне ў руку кнігу і паказаў у ёй малітву аб дарах Святога Духа, так сёння я, якога вы таксама называеце айцом, прагну маліцца з варшаўскай і польскай студэнцкай моладдзю: аб дары мудрасці; аб дары розуму; аб дары ўмеласці, ці, інакш, ведаў; аб дары рады; аб дары мужнасці; аб дары набожнасці, г. зн. пачуцця сакральнай святасці жыцця, чалавечай годнасці, святасці людской душы і цела; і нарэшце аб дары боязі Божай, пра якую гаворыць псалміст, што яна з'яўляецца пачаткам мудрасці...".



*Папа Ян Павел II падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 1996 г.*

У інтэрв'ю блізкі супрацоўнік папы Яна Паўла II, яго сакратар кардынал Станіслаў Дзівіш падкрэсліваў, што Пантыфік заўсёды быў верным Святому Духу. Да канца свайго жыцця давяраў Яму: "У апошні дзень яшчэ прамовіў малітву аб дарах Святога Духа".

Аб важнасці сувязі са Святым Духам вялікі Папа скажа яшчэ не раз. Слоганам XIII Сусветнага дня моладзі ім будуць выбраны словы: "Дух Святы навучыць вас усяму" (Ян 14, 26). З нагоды гэтай сустрэчы Ян Павел II скіраваў пасланне да маладых людзей. Ведаючы, што Святы Дух заўсёды побач, і ўсведамляючы Яго ролю ў будаванні веры кожнага чалавека і ўсёй супольнасці Касцёла, пісаў так: "Калі Езус быў з вучнямі, спяшаўся, усведамляў, што час мінае: «Мой час яшчэ не настаў» (Ян 7, 6); «Яшчэ нядоўга будзе святло сярод вас» (Ян 12, 35). Пасля уваскрасення Яго адносіны да часу ўжо іншыя, але Яго прысутнасць працягваецца: «І вось Я з вамі ва ўсе дні, аж да сканчэння веку» (Мц 28, 20). Гэтая перамена прысутнасці нашага Пана і Збаўцы, яе глыбіні, шырыні і трываласці, з'яўляецца творам Святога Духа".

Падчас свайго пантыфікату Ян Павел II імкнуўся прышчапіць вернікам любоў і адданасць Святому Духу: не з пазіцыі тэолага ці маралiста, а з пазіцыі любячага пастыра, які прагне дабра для сваіх авечак. На ўласным прыкладзе паказваў, як важна мець цесную сувязь з Духам, што накіроўвае, натхняе і вядзе да сустрэчы з Айцом у Небе.

*Кацярына Паўлоўская*

# Калі Святы Дух у дзеянні

● працяг са с. 1



Біскуп Аляксандр Кашкевіч асвячае крыж і зямлю пад будаўніцтва касцёла

### “ПРАПУСЦІЦЕ БАБЦЮ!”, АБО КОЖНЫ Ў АДКАЗЕ ЗА СВАЮ ПАРАФІЮ

***“Момант, калі кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч акрапіў месца, дзе нам наканавана збірацца пад адным дахам дзеля супольнай малітвы, стаў адным з самых кранальных хвілін для парафіян,*** – дзеліцца Крысціна Лісай, адна з першых мясцовых парафіянак. – ***У пэўным сэнсе гэта стала для ўсіх нас неверагоднай падзеяй, бо дагэтуль шматлікія спробы атрымаць зямлю заканчваліся паразай. Улады каментавалі адмовы па-рознаму: то вакол шмат святынь, то мясцовыя жыхары супраць, каб побач будавалі касцёл”.***

Таму доўгі час вернікі цешыліся толькі капліцай, якую ўласнаручна і ўзвялі. ***“Мужчыны прывезлі жалезныя бэлькі: чысцілі іх і фарбавалі. Маладыя мамы і сталыя жанчыны займаліся дошкамі: пакрывалі лакам, пераварочвалі, каб прасушыць, збівалі,*** – распавядае спадарыня Крысціна. – ***У падобныя моманты заўсёды ўзгадваю словы нашага пробашча, што Касцёл – гэта, перш за ўсё, людзі”.***

Сапраўды, зважаючы на лёс парафіі на Альшанцы, бачыш, якую вялікую ролю адыгралі канкрэтныя ўчынкі пэўных людзей. Уладзіслава Пашэнка, адна са старэйшых мясцовых верніц, хаваючы ўсмешку, распавядае пра сустрэчу з былым прэм’ер-міністрам Беларусі Міхаілам Мясніковічам, якая стала вызначальнай для будучыні парафіі. Высокі госць прыбыў у Гродна ў 2014 годзе, каб прыняць удзел ва ўрачыстым адкрыцці школы ў тутэйшым мікрараёне.

***“Даведаўшыся, што да нас едзе прэм’ер-міністр, я вырашыла: трэба ісці прасіць дазволу на зямлю пад касцёл. Нарвала ў гародзе кветак, узяла абразок Маці Божай і вырушыла ў школу. Прыйшла на месца, а там увесь мікрараён сабраўся: мяне за людзьмі ані відаць, ані чуваць,*** – узгадвае спадарыня Уладзіслава. – ***Мясніковіч тым часам ужо агледзеў покоі будынка і выйшаў да людзей, што чакалі ў вестыбюлі. Раптам хтосьці заўважыў мяне з букетам і прамовіў: «Прапусціце бабцю!». Прысутныя расступіліся, я падышла да госця, прывіталася, выказала сваю просьбу і працягнула абразок з букетам. Ён прыняў кветкі, хоць тыя і звялі, пакуль чакала, і пацалаваў выяву Найсвяцейшай Панны Марыі, паабяцаўшы выканаць маю просьбу”.***

Праз месяц вернікі з парафіі на Альшанцы атрымалі зямлю для ўзвядзення святыні. Маці Божая, што чувала са згаданага абразка, насіла тытул Нястомнай Дапамогі…



Парафіянка Уладзіслава Пашэнка падчас сустрэчы з былым прэм’ер-міністрам Беларусі Міхаілам Мясніковічам
Фота: TUT.BY

### ЧАРГОВЫ ЦУД

Мясцовыя вернікі могуць ганарыцца яшчэ адной “марыйнай” гісторыяй. Пробашч парафіі кс. канонік Павел Салабуда ўзгадвае, як да іх трапіў старадаўні абраз Маці Божай. Пэўны час таму, нечакана для самога сябе, святар вырашыў наведацца да вядомага гродзенскага рэстаўратара Уладзіміра Кіслага, які займаецца аднаўленнем твораў сакральнага мастацтва.

***“Мой візіт аказаўся шчаслівым. Майстар падзяліўся, як знаёмы ксёндз прынёс яму ў мяшку набор бляшак, што знайшоў на гарышчы святыні. Рэстаўратар, расклаўшы перад сабой часціцы з каштоўнага металу, зірнуў на іх вопытным вокам і зразумеў – перад ім сілуэт Маці Божай Чанстахоўскай. А з адваротнага боку бляшак пазначалася – XVI стагоддзе,*** – дзеліцца кс. Павел. – ***Калі аднаўленне абраза было завершана, знайшоўся і пакупнік. Таму неўзабаве абраз павінен быў апынуцца ў прыватным валоданні. Я спахапіўся і спытаўся, ці не згодзіцца майстар прадаць абраз мне, каб той заняў месца ў святыні. Спадар Уладзімір, разважыўшы, што абразу з такой гісторыяй варта знаходзіцца ў касцёле, пагадзіўся і прадаў мне яго за значна меншую суму”.*** Такім чынам выява Маці Божай з эпохі Рэнесансу размясцілася ў альшанскай капліцы ў чаканні свайго месца ў будучым касцёле.

### НЯМА ЛЕПШАГА АПЕКУНА, ЧЫМ СВЯТЫ ДУХ

Кс. Павел адзначае, што яго парафія “дыхае Святым Духам”. За 8 гадоў існавання мясцовай супольнасці святар упэўніўся ў багатых і разнастайных Яго дарах. ***“Самыя важныя здзяйсненні – духоўныя. Для мяне самае вялікае значэнне мае колькасць свядомых вернікаў, якая няспынна расце. Штогод у парафіі ўдзяляецца больш за паўтары сотні сакрамантаў хросту. Столькі ж дзяцей прыступае да Першай св. Камуніі. Кожны тыдзень у катэхезе ўдзельнічае 600 маленькіх вернікаў, з якіх амаль 100 – міністранты,*** – распавядае кс. Павел. – ***Асаблівае бласлаўленне – прысутнасць у парафіі сясцёр ядзвіжанак і актыўных вернікаў, якія клапоцяцца пра ўсю супольнасць. Зразумела, у маладой парафіі трэба ўсё пачынаць з нуля, але дзякуючы сумесным намаганням ужо арганізаваны ўсе магчымыя заняткі для дзяцей, хор, моладзевы музычны гурт, ружанцовае кола і кола адарацыі. Маем удзельніц супольнасці «Маргарытка» і ўдзельнікаў руху «Мужчыны св. Юзафа», валанцёраў і студэнтаў катэхетычнага каледжа. Зладзілі нават адмысловую пілігрымку Альшанка – Адэльск”.***



Пробашч маладой і энергічнай парафіі кс. канонік Павел Салабуда

Спадарыня Крысціна дадае, што вернікі актыўна праяўляюць сябе з першага дня ўзнікнення парафіі: раней захоўвалі ў сваіх дамах і клапаціліся пра ўсе літургічныя прадметы, цяпер дбаюць пра наяўнасць кампазіцый з кветак каля алтара, сочаць за чысцінёй у святыні. Сама жанчына дагэтуль трымае на гарышчы сваёй хаты ўласнаручна зробленыя святочныя дэкарацыі: ***“І на Раство ёсць, і на Вялікдзень”.*** Яна ж падрыхтавала для парафіян лекцыянарый на беларускай мове. ***“Здаецца, стамлюся пасля працы, адслужыўшы ад 6-ай гадзіны раніцы і да 4-ай апоўдні, але ногі ўсё роўна ў святыню нясуць, а дакладней – душа туды імкнецца”,*** – прызнаецца парафіянка.

Калі спадарыня Крысціна – адна з тых, хто бярэ на сябе арганізацыйныя справы, то спадарыня Уладзіслава чувае над малітвай у парафіі. Бабуля штодня прыходзіць у капліцу загадзя, каб да пачатку св. Імшы паспець агучыць усе неабходныя інтэнцыі: ***“За Святога Айца, за пробашча, за будову касцёла і за ўсе святыні, за пакліканні да святарства і святасць у сем’ях”.*** Малітоўныя намеры спадарыня Уладзіслава складае сама. Яны льюцца па капліцы, паўтараемыя той паўсотняй вернікаў, якія абавязкова прысутнічаюць на набажэнствах у звычайныя дні.

Пра актыўнае ўключэнне ў жыццё парафіі моладзі распавядае міністрант Валерый Руселевіч. Хлопец служыць пры алтары на працягу апошніх некалькіх гадоў і дапамагае ў падрыхтоўцы літургіі падчас вялікіх урачыстасцей. ***“Акрамя гэтага люблю ўпрыгожваць нядзельнае набажэнства – іграю на гітары падчас св. Імшы. Дарэчы, з кола маладых музыкантаў і спевакоў быў арганізаваны парафіяльны гурт «Bonum»*** (з лац. «дабро» – *заўв. аўт.*). ***Да напісання ўласных песень справа яшчэ не дайшла, але кожную нядзелю моладзь ладзіць спеў падчас св. Імшы. На мой погляд, гэта вельмі добрая практыка, бо дапамагае маладым вернікам адчуваць адказнасць за тое, што адбываецца падчас службы”,*** – падкрэслівае Валерый.

Падсумоўваючы, кс. Павел дадае, што парафія мае яшчэ шмат планаў: ***“І найважнейшы з іх – прывесці людзей да Бога і паказаць, што Ён іх бясконца любіць”.***

### ЗНАЙСЦІ СЯМ’Ю Ў СУПОЛЬНАСЦІ МЯСЦОВАГА КАСЦЁЛА

Спадарыня Крысціна адзначае, што паверыць у любоў Госпада лёгка, бо парафія ёю жыве. ***“Нашых манахінь ніколі не ўбачыш без усмешкі. Ксёндз вікарый – бязмежна добры. Ксёндз пробашч заўсёды захапляе цікавымі казаннямі: звернецца да нас і з жартам, і сур’ёзна. Няма такога, каб вернікі адчувалі страх перад духавенствам – адносіны адкрытыя, сяброўскія”,*** – адзначае жанчына.

Парафіянка дадае, што стаўленне святароў і сясцёр да вернікаў можна акрэсліць адным словам – “клопат”. ***“Манахіні заўсёды дбаюць пра тое, як лепш арганізаваць вольны час дзяцей: то на флэшмоб у гандлёвы цэнтр павязуць, то ўдзельнічаць у конкурсе ў суседняй парафіі. Вікарый таксама поўніцца ідэямі, як пацешыць малодшых вернікаў: шпацыры, выезды, катанне на веласіпедах, а зімой – на санях. Або запасуцца ежай – і ў паход у лес. А там і св. Імшу на імправізаваным алтары праводзяць – перавернутай лодцы,*** – распавядае з усмешкай жанчына. – ***У адказ мы молімся за нашых святароў і сясцёр. Ці ж не гэта выраз узаемнага клопату пра іх?”.***

Разам з тым, Валерый прызнаецца, што раней удзел у іншых рэлігійных практыках, акрамя нядзельнай св. Імшы, быў для яго ў навіну. ***“Актыўная духоўная штодзённасць стала часткай майго жыцця дзякуючы штуршку мясцовага духавенства. Аднойчы я прыйшоў на прапанаваную для моладзі сустрэчу – разважанне над Божым словам – і зачасціў. Паступова стала далучацца ўсё больш хлопцаў і дзяўчат,*** – распавядае юнак. – ***Мне цікава бавіць час з парафіянамі, якія сталі для мяне другой сям’ёй. Раней не адчуваў, але цяпер разумею, колькі ўжо маю каштоўных успамінаў, звязаных з Касцёлам. Цяпер гэта частка мяне і, спадзяюся, так будзе далей”.***

Зразумела, увесь настрой і лад парафіі задаецца тым, хто стаіць на чале. Кс. Павел прызнаецца, што нягледзячы на тое, што яму далёка да “святога пробашча”, згодна са сваім сумленнем, імкнецца да гэтай мэты. ***“Я люблю Касцёл і кожнага чалавека, які ўвасабляе жывы Касцёл. Прыслухоўваючыся да голаса Святога Духа, мы стараемся як мага лепш служыць нашым парафіянам. І я кажу гэта ад імя ўсіх святароў і кансэкраваных асоб з нашай супольнасці. Варта зрабіць для вернікаў касцёл сапраўдным домам, дзе яны будуць адчуваць сябе ўтульна. І тады ўсё немагчымае стане магчымым”,*** – упэўнены пробашч.

***31 мая Каталіцкі Касцёл адзначае ўрачыстасць Спаслання Святога Духа.***

*Ангеліна Марцішэўская*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 мая 2020 года “Аб сацыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян”, між іншым, прадугледжвае першую бясплатную спробу экстракарпаральнага апладнення (ЭКА). Гэта азначае, што грахоўную працэдуру, якая супярэчыць Святому Пісанню і маральнаму вучэнню Касцёла, плануецца фінансаваць таксама за кошт падаткаў вернікаў.*

*Каталіцкі Касцёл у Беларусі ўжо выказваўся ў лютым 2019 года на тэму ЭКА як амаральнай працэдуры, якая прыніжае годнасць чалавечай асобы і стварае пагрозу Божаму дару жыцця. Мы не можам маўчаць, калі ў небяспецы знаходзіцца натуральны, закладзены Богам парадак рэчаў, асабліва калі гэта датычыцца чалавечага жыцця. Касцёл ніколі не ставіўся да чалавека як да біялагічнага матэрыялу, нягледзячы на тое, колькі часу прайшло пасля яго зачацця або нараджэння. Як каштоўнасць кожнага зачатага жыцця, так і святасць акту зачацця заўсёды знаходзіліся ў аснове хрысціянскага маральнага вучэння, бо гаворка ідзе пра павагу да святога дару саўдзелу чалавека – мужа і жонкі – у вялікай справе Бога Стварыцеля.*

*Зачацце, якое адбываецца па-за сужэнскім актам, маніпуляцыі з эмбрыёнамі, іх крыякансервацыя і знаходжанне ў “замарожаным” стане, банкі жаночых і мужчынскіх палавых клетак, сурагатнае мацярынства – усё, што суправаджае і з’яўляецца часткай працэдуры штучнага апладнення, не можа пакінуць нас абыякавымі, паколькі гэта маральна недапушчальна.*

*Касцёл занепакоены таксама пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь № 124 “Аб пытаннях прымянення дапаможных рэпрадукцыйных тэхналогій”, апублікаванай 13 мая 2020 года, у якой гаворка ідзе пра пашырэнне практыкі штучнага апладнення. Цяпер зацяжарыць з дапамогай ЭКА можа адзінокая здаровая жанчына, якая не мае палавога партнёра, што, несумненна, ставіць пад пагрозу існаванне інстытута сям’і, нівелюе каштоўнасць бацькоўства, пазбаўляе дзіця права на абодвух бацькоў. Такая сітуацыя робіць жанчыну і дзіця больш уразлівымі ў эканамічным і сацыяльным плане, ставячы пад пагрозу паўнавартаснае развіццё ў будучыні.*

*У час, калі каштоўнасць чалавечага жыцця і сям’я знаходзяцца пад пагрозай, Касцёл заклікае вернікаў і ўсіх людзей добрай волі да актыўнай малітоўнай падтрымкі цывілізацыі жыцця.*

*Зварот да вернікаў Беларусі, 20.05.2020*




◆ Кангрэгацыя Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў абнародавала дэкрэт аб змяшчэнні ўспаміну св. Фаўстыны Кавальскай у Агульны каляндар Касцёла рымскага абраду. Неабавязковы раней успамін будзе адзначацца штогадова 5 кастрычніка – у дзень адыходу св. Фаўстыны ў вечнасць. Рашэнне прынята Святым Айцом Францішкам з увагі на шматлікія просьбы пастыраў, манаскіх асоб, асацыяцый свецкіх вернікаў, і на вялікі ўплыў духоўнасці св. Фаўстыны ў розных частках свету.

◆ Папа Францішак аб'яднаў 2 амерыканскія дыяцэзіі на Алясцы і стварыў 1 новую архідыяцэзію Анкорыдж-Джуно. Былая дыяцэзія Джуно ўяўляла сабой вузкую паласу ў паўднёва-ўсходняй вобласці Аляскі з астравамі, паўастравамі, фіёрдамі і ледавікамі. Былая архідыяцэзія Анкорыдж – гэта галоўным чынам горад, размешчаны на заліве Кука, у якім пражывае 42% насельніцтва Аляскі. Плошча новаўтворанай архідыяцэзіі складае амаль 321 тыс. км². На яе тэрыторыі пражываюць 560 тыс. чалавек, у тым ліку 55 тыс. католікаў. Тут працуюць 34 дыяцэзіяльныя святары. Да некаторых парафій можна дабрацца толькі паветраным або водным транспартам.

◆ Да 100-годдзя з дня нараджэння Яна Паўла II на філасофскім факультэце Папскага ўніверсітэта св. Тамаша Аквінскага ў Рыме (Angelicum) пачаў дзейнічаць Інстытут культуры, названы ў яго гонар. Місія навучальнай структуры – глыбокая рэфлексія над актуальнымі праблемамі свету і Касцёла ў суаднősінах з думкай і вучэннем Пантыфіка-славяніна. Першыя студэнты Інстытута пачнуць заняткі ўжо восенню. Штогод у якасці лектараў будуць запрашацца вядомыя інтэлектуалы з усяго свету. Адначасова будзе запушчана стыпендыяльная праграма для маладых навукоўцаў.

◆ Паводле справаздачы Міжнароднай асацыяцыі грамадзянскіх свабод, толькі за першыя 4 месяцы бягучага года ў Нігерыі было забіта 660 хрысціян. Гвалт ісламскіх экстрэмістаў узмацніўся. У арганізацыі тэрактаў у гэтай краіне замешаны баевікі Бока Харам і Фулані. Самай распаўсюджанай формай агрэсіі з'яўляецца выкраданне людзей за выкуп і напады на храмы. Мясцовыя біскупы звяртаюцца да кіраўніцтва краіны з просьбай аб супрацоўніцтве і лепшай абароне каталіцкіх супольнасцей.

◆ Венгрыя забараніла афіцыйную рэгістрацыю змены полу і юрыдычнае прызнанне новай асобы трансгендэраў. Адпаведнае рашэнне было прынята парламентам большасцю галасоў. Цяпер закон забараняе трансгендэрным асобам змяняць прозвішча і атрымліваць дакументы, якія адпавядаюць іх "новай ідэнтычнасці". Да гэтага часу асобы, якія змянілі пол шляхам хірургічнага ўмяшання, маглі папрасіць улады Венгрыі змяніць свае дадзеныя.

vaticannews.va; ekai.pl; stacja7.pl

# Хрыстос іх выбраў, аказваючы вялікую ласку

● працяг з папярэдняга нумара

## 30 гадоў святарства


Кс. Ян Гавецкі

Я пачаў думаць пра святарства, калі меў 15 гадоў. У той час сустракаў няшчасных, скалечаных людзей. Ад іх выгляду сэрца сціскалася, і ў галаву прыйшла думка: калі б я быў святаром, мог бы ім дапамагчы. Потым стаў прыслужваць на св. Імшы ў кс. інфулата Міхала Арановіча ў гродзенскім пабернардынскім касцёле, таму што ў маім парафіяльным францысканскім касцёле камітэт забараняў прыслужваць, каб у ксяндза не забралі "спраўкі".

Потым я пайшоў у армію. Здарылася так, што служыў побач з касцёлам. Хадзіў праз плот у святыню, прыступаў да споведзі, удзельнічаў у св. Імшы, а ў маі хадзіў туды амаль кожны дзень замест вячэры. Мясцовы святар спачатку глядзеў на мяне вельмі здзіўлена, з падазрэннем: у тыя часы было неймаверна, што, знаходзячыся ў савецкай арміі, дзе панавала атмасфера ваяўнічага атэізму, салдат падчас звальнення не бадзяецца па горадзе, а ідзе ў касцёл, каб памаліцца. Неўзабаве ён пераканаўся, што са мной "усё ў парадку", і ўжо не стараніўся.

Адслужыўшы ў войску, я вярнуўся ў Гродна, знайшоў працу. Але працягваў кожны дзень хадзіць на св. Імшу. Любіў чытаць чытанні, спяваць псалмы. Памятаю, што часам прасіў калег, якія змянялі мяне на працы, прыйсці раней, і тады бег, каб паспець на св. Імшу.

Праз некаторы час у Гродна прыехалі святары з Літвы, у тым ліку пробашч, з якім я пазнаёміўся падчас службы ў арміі. Ён прапанаваў паехаць з ім у Літву. Я пагадзіўся. У выніку правёў там, у вёсцы, год. Вывучыў літоўскую мову і вырашыў, што паспрабую паступіць у семінарыю ў Каўнасе. Падаў дакументы і, на дзіва, быў адразу прыняты. Не ўсім было так проста: некаторыя паступалі толькі з 3-яй ці 4-ай спробы. Спачатку семінарысты прыглядаліся да мяне, глядзелі з недаверам, думалі, што я "чырвоны", але потым убачылі мае добрыя намеры, і мы пасябравалі.

30 гадоў таму, 27 мая 1990 года, у касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне я быў пасвечаны ў святары. Вельмі добра памятаю той дзень. Святыню перапаўнялі людзі, таму што гэта было незвычайнае свята – упершыню ў нашай краіне адбываліся святарскія пасвячэнні. Першы год я працаваў вікарыем у літоўскай парафіі. Потым вярнуўся ў Беларусь і быў пробашчам у Трабах. А з 1996 года і па сёння з'яўляюся пробашчам парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі.

На працягу ўсіх гадоў сваёй святарскай пасугі я стараўся рэалізаваць словы, напісаныя на маім прыміцыйным абразку: "Пане, навучы мяне дапамагаць іншым, навучы несці крыж бліжніх". Шмат сіл і часу прысвяціў таму, каб змяніліся да лепшага касцёл, парафія і ўсё наваколле, каб развівалася дабрачынная дзейнасць. Распачаў розныя ініцыятывы, між іншым, пілігрымкі, Дэканальны фестываль калядак, галоўная мэта якіх – наближэнне людзей да Бога. Мне даводзіцца сустракаць людзей, якія па некалькі дзесяткаў гадоў не былі ў споведзі, якія нават не хочуць закранаць тэмы, звязаныя з верай. Тады я шукаю да іх асаблівы падыход, таму што цалкам усведамляю адказнасць за даручаных мне вернікаў. І няма большай радасці, чым іх навяртанне, калі бачу, што чалавек з'яднаўся з Хрыстом.

Нават цяпер, у складанай эпідэміялагічнай сітуацыі, я стараюся не апускаць рукі: тэлефаную сваім парафіянам, размаўляю, прысутнічаю ў іх жыцці. Акрамя таго, стараюся, каб у гэты перыяд ніхто з вернікаў не застаўся духоўна занядбаны: разам з мясцовым тэлебачаннем мы арганізавалі трансляцыі св. Імшы, а таксама хутка ў мясцовай прэсе выйдзе мой артыкул пра тое, як годна ўдзельнічаць у св. Імшы праз радыё.

Круглая гадавіна святарскага пасвячэння, як і любая іншая, – гэта добрая нагода, каб падзякаваць Богу за дар паклікання і атрыманыя ласкі, а таксама ў чарговы раз задумацца над сэнсам свайго служэння і папрасіць блаславлення на будучыню, каб магчы надалей выконваць задачы, дарученыя Усемагутным.

## 20 гадоў святарства


Кс. Павел Астукевіч

З 13-гадовага ўзросту я прыслужваў міністрантам у касцёле ў Ваўкавыску, назіраў за працай свайго пробашча кс. прэлата Антонія Філіпчыка. І ўжо ў 10-ым класе сярэдняй школы пачаў сур'ёзна задумвацца над выбарам свайго жыццёвага шляху. Вучыўся даволі добра і спачатку хацеў паспрабаваць паступіць ва ўніверсітэт у Мінск. Таго ж хацелі і мае бацькі, таму я грунтоўна рыхтаваўся да ўступных экзаменаў. Але калі маліўся перад абразом Маці Божай Вастрабрамскай, які вісеў над маім ложкам, і думаў пра сваё мінулае, пачаў заўважаць маленькія падказкі. І, нарэшце, прыйшоў да высновы, што паеду не ў Мінск, а ў Гродзенскую духоўную семінарыю. Спачатку я накіраваўся туды, каб сустрэцца са сваімі старэйшымі калегамі – Юрыем Федуком і Уладзімірам Гуляем, якія, як і я, спачатку былі міністрантамі, а потым сталі семінарыстамі. І, ужо будучы выпускніком, я канчаткова вырашыў здаваць экзамены ў семінарыю.

Дзень, калі я прымаў святарскае пасвячэнне, заўсёды ўзгадваю з вялікім хваляваннем, таму што яго суправаджалі цудоўныя эмоцыі: здзейснілася мая мара стаць ксяндзом. Пазней я даведаўся ад таты, што бабуля шмат малілася аб святарскім пакліканні для яго – адзінага сына сярод трох дачок. І яе малітва не была страчана: ксяндзом стаў унук. Акрамя таго, сваё пасвячэнне з цеплынёй успамінаю з-за сустрэчы з многімі членамі сваёй сям'і, якія прыбылі на гэтую ўрачыстасць. Для мяне было вельмі кранальна, што нават сваякі, якіх я ніколі раней не бачыў, прыехалі і маліліся разам са мной. Шкада, што не захавалася відэа з гэтага дня, але маю шмат фатаграфій. Таму 3 чэрвеня, у чарговую гадавіну пасвячэння, заўсёды бяру гэты альбом, гляджу і з радасцю ўспамінаю той важны дзень.

Падсумоўваючы гады сваёй паслугі, магу сказаць, што самае галоўнае, калі, дзякуючы размове са мной, чалавек пасля шматгадовай рэлігійнай абыякавасці зноў пачынае думаць пра сваю душу, пра веру, прыступае да сакрамантаў і навяртаецца. Заўсёды цешуся, калі людзі бачаць ува мне таго, хто шчыра верыць, і задумваюцца аб тым, што з'яднанне з Богам вельмі важнае, таму варта злучаць сваё жыццё з верай.

Калі разважаю аб сутнасці святарскага і душпастырскага служэння, усведамляю, што салідарнасць з людзьмі – гэта самае галоўнае. Трэба іх любіць, паважаць, быць цярплівым, талерантным, даваць асабісты прыклад старannасці і працавітасці. Трэба таксама мець шчырае жаданне суперажываць жыццю простага чалавека і быць са сваімі парафіянамі ў кожны момант іх жыцця – і сумны, і радасны, часам трагічны, а часам у хвіліну разгубленасці, а таксама дапамагаць выходзіць з розных жыццёвых сітуацый не толькі з верай, але і з годнасцю.

Вельмі ўдзячны Богу за ўсіх людзей, якіх Ён паставіў на маім жыццёвым шляху. Перш за ўсё, успамінаю тых, хто прасіў мяне памаліцца за іх, а таксама тых, каму паабяцаў, што зраблю тое, што яны хацелі, каб было зроблена ў нашым касцёле ў Індуры. Такіх людзей няшмат. Яны ўжо адышлі ў вечнасць, але захаплення годна тое, што, усведамляючы сваё хуткае развітанне з гэтым светам, яны ўсё яшчэ думалі пра сваю святыню, парафію і хацелі, каб касцёл стаў яшчэ больш прыгожы. Стараюся рэалізаваць тое, чаго прагнулі тыя парафіяне. З вялікай удзячнасцю ўспамінаю таксама свайго дзядулю з боку маці і бабулю з боку бацькі. Дзядуля калісьці быў закрыстыянінам у касцёле ў Лунне. Ён даў мне найлепшы прыклад веры, навучыў першым малітвам на лацінскай мове. Бабуля служыла ў касцёле ў Крамяніцы. І калі я летась быў у гэтай парафіі на рэкалекцыях, мне было вельмі прыемна, што мясцовыя жыхары ўсё яшчэ памяталі яе і дзяліліся прыгожымі сведчаннямі пра яе старannасць і веру.

Кажучы пра планы на будучыню, хачу падкрэсліць, што я заўсёды стараюся развівацца ў розных напрамках: і прафесійна, і інтэлектуальна, і духоўна. У гэтым годзе прыкладваю вялікія намаганні, каб рэалізаваць праект новай аўтастаянкі побач са святыняй. Таксама жадаю, каб як мага хутчэй скончылася эпідэмія, і людзі зноў маглі прыходзіць у святыні і разам маліцца, як гэта было спрадвеку.

## 10 гадоў святарства


Кс. Алег Кананові́ч

Напэўна, кожнае святарства пачынаецца з сяброўства з Езусам. Так было і ў мяне. Магчыма, спачатку гэта адбывалася несвядома, быццам звычайная справа, а потым раптам заўважаеш, што цябе выбралі і паклікалі, каб паглыбіць гэтае сяброўства яшчэ больш…

Я з дзяцінства хадзіў у касцёл, быў міністрантам, прымаў удзел у жыцці парафіі. І калі прыйшоў час выбраць, якім шляхам ісці, я, дзякуючы Божаму Провіду, пайшоў у семінарыю. І ўжо амаль 10 гадоў з'яўляюся ксяндзом. Вельмі рады, што маё жыццё склалася менавіта так. Вядома, былі розныя няўдачы, падзенні, сумненні, але я веру, што калі хтосьці пакліканы, то Бог дасць яму сваю ласку, каб мог выконваць Яго волю.

Хрыстос сказаў, што прыйшоў не для таго, каб Яму служылі, але каб самому служыць. Таму я лічу, што сутнасцю святарскай і душпастырскай паслугі з'яўляецца менавіта служэнне. Вядома, учыненае з любоўю, клопатам і радасцю.

Святар – гэта чалавек, які таксама мае людскія слабасці. Але калі ў яго ёсць звышнатуральная матывацыя, г. зн. не шукае чалавечага прызнання і не слухае гэты свет, то будзе верны да канца на абраным шляху. Я ведаю, што гэта проста словы, але стараюся жыць так, бо калісьці прыйдзецца адказваць перад Богам.

Азіраючыся назад – хоць 10 гадоў і не такі доўгі прамежак, але ён мой – хочацца сказаць, што гэты час быў часам выплывання на глыбіню. Кожны малады чалавек мае мары, хоча заваяваць свет і шмат чаго дасягнуць. Ксёндз таксама. Я вучыўся пакоры і даверу. Была праца ў парафіях, была вучоба ва ўніверсітэце, сустрэчы з рознымі людзьмі і пры розных абставінах. Я шмат чаму навучыўся, ад чагосьці адмовіўся. Але надалей, як пісаў у сваёй заяве пры паступленні ў семінарыю, хачу весці людзей у Неба. Таму сам стараюся туды ісці. І ўсё яшчэ поўны запалу служыць Богу і людзям.

Святарства – гэта дар і таямніца, і таму я заўсёды ўсведамляю, што быў бязмерна і незаслужана адораны. І такі дар абавязвае быць дарам для іншых. Я таксама хацеў бы яшчэ больш пазнаць таямніцу гэтай адоранасці, самога Бога, які паклікаў мяне. Таму малюся аб тым, каб добра выкарыстаць час і як мага больш зрабіць для абвяшчэння Евангелля.

Кінга Красіцкая

# ЛЮБІЦЬ І ХОЧА БЫЦЬ ЛЮБІМЫМ

***Чалавек, які шукае любові, не знойдзе іншай, больш цудоўнай крыніцы, чым Сэрца Бога-Чалавека. З гэтага Сэрца, працятага салдацкай дзідай на Галгофе, выцяклі Кроў і Вада. Гэтым жэстам міласэрнасці людзі былі абмыты і ачышчаны ад бруду грахоў. З тых памятных падзей прайшло шмат часу, многія пакаленні гэтай зямлі адышлі ў вечнасць, а невычэрпная Крыніца Божай Любові і Міласэрнасці б'е і застаецца жывой. З яе да нас цячэ дзівосны паток Божай любові і шматлікіх Яго ласкаў.***



## СЭРЦА ЕЗУСА ЗАСПАКОЙВАЕ ПАТРЭБЫ

Гэтая Крыніца Божай любові можа задаволіць чалавечыя імкненні і жаданні, а трывогу і безнадзейнасць паглынуць у сваім жыватворным патоку. Сэрца Збаўцы – адзіны знак, пад якім людзі знаходзяць і могуць заспакоіць свае самыя глыбокія прагненні, да якіх, несумненна, належыць прагненне любові і сэнсу жыцця. Хрыстос ніколі нікога не адштурхоўвае, а ў Яго Сэрцы выратаванне і суцяшэнне знаходзіць кожны, хто верыць у Збаўцу.

Езус кажа ўсім нам: "Я аддаю вам Маю любоў і Маё прабітае Сэрца; даю прытулак і вяду да крыніцы чысціні і ласкі; адкрываю перад вамі бязмежнасць Маёй міласэрнасці – прыходзьце і купляйце без срэбра і без платы" (параўн. Іс 55, 1). Так заклікае ўкрыжаваная і адкрытая Любоў! Так заахвочвае Дабрыня – шчырая і бескарыслівая! Так ахвяруе сябе Бог – Паўната ласкі і любові!

## СЭРЦА ЕЗУСА – КРЫНІЦА НАДЗЕІ

На жаль, многія гэтага не разумеюць. Чалавек у сваёй гордасці і эгаізме, пагружаны ў свет новых тэхналогій, не заўважае Божай любові, якою Пан хоча адарыць усіх: простага і вучонага, слабога і моцнага, багатага і беднага. Той, хто ёсць Любоў, аб'яўляецца тысячамі спосабаў, каб кожны мог заўважыць паток і бязмежнасць Яго Ахвяры, якая мае сваю крыніцу ў любові.

Сучасны чалавек, які часта падобны да паралітыка, часцей звяртаецца да нетрадыцыйнай медыцыны, замест таго, каб прыйсці да Таго, хто мае моц вярнуць жыццё і здароўе. Не хоча слухаць вучэнне і заклікі Хрыста, які заўсёды гаворыць нам: "Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас" (Мц 11, 28). Мы часта не чуем гэтага запрашэння, бо не ведаем Валадара Міласэрнасці і Лекара душ. А Ён гатовы вылечыць ад усякага болю духоўнага і цялеснага! Ён прыносіць радасць здароўленым і надзею церпячым. Ён, які першым пайшоў дарогай крыжа, дае нам усё, аб чым толькі Яго папросім.

Літаральна аднаго моманту чалавеку было б дастаткова, каб зразумець, як моцна яго любяць. Аднога погляду на "палаючае вогнішча любові" было б дастаткова таму, хто шукае такой любові. Менавіта яе прагне сэрца, а не сапсаваная натура чалавека.

## СЭРЦА ЕЗУСА БЯЗМЕЖНА ЛЮБІЦЬ

Калі ў свеце разнастайных дарог можна заблукаць, выбраць звілістыя замест прамых, то сапраўдным крахам будзе няправільна зразуметая і пераэжытая любоў. Падманутае сэрца, зламанае жыццё, расчараваныя надзеі – стольکі каштуе памылка ў сферы духу. А Бог нязменна з самага пачатку гаворыць нам: "Люблю!" – праз свае творы, праз пакліканне нас да існавання, праз месца, якое рыхтуе для нас на Небе... Чалавек веры прыме дар Божай любові і ласку, неабходную для збаўлення. Чалавек, які бунтуецца альбо адмаўляе дар, як недастойны сябе, будзе працягваць шукаць сэнс жыцця і спрабаваць розныя камбінацыі, каб дабіцца поспеху.

## СЭРЦА ЕЗУСА – КЛЮЧ ДА НЕБА

Бог палюбіў першым. Вечнай і поўнай любоўю. Чалавек пакліканы да такой любові і павінен да яе дарасці. Гэта складана, але магчыма. Дастаткова паставіць перад сабой ідэал любові, якім ёсць Найсвяцейшае Сэрца Езуса. Спачатку вучыцца ў Яго, а потым, як Ён, складваць сябе ў ахвяру.

Сэрца не ведае іншай цаны, акрамя ахвяравання. Аддаць сваё сэрца – значыць даверыць сябе Таму, каго любім. Цана, якую Езус заплаціў за любоў да нас, выяўляецца ў крыжы, але перамога, якую Ён здабыў, стала ключом да Неба і домам для кожнага чалавека.

Сэрца нашага Бога адкрыта для людзей. У ім ёсць усе магчымыя ласкі. Апостал Ян, які толькі на імгненне спачыў на Сэрцы Езуса, стаў адным з тых, хто найлепш зразумеў Бога. Сёння чарга кожнага з нас.

Таму, перажываючы чарговы чэрвень у сваім жыцці, давайце пакладзём галаву на пульсуючае Сэрца Бога, якое любіць і хоча быць любімым!

*Кс. Юрый Марціновіч*

# СПОСАБЫ ЎШАНАВАННЯ НАЙСВЯЦЕЙШАГА СЭРЦА ЕЗУСА

**У чэрвені скіроўваемся да Найсвяцейшага Сэрца Езуса, зноў асэнсоўваючы, што любоў з'яўляецца каштоўнай і жыватворнай. І вось сцежкі, якімі варта хадзіць, каб паняцце сапраўднай любові ў нашай свядомасці не пахіснулася.**

## 1. АДДАНАСЦЬ

*Разважаючы над Найсвяцейшым Сэрцам Езуса, разумеем, наколькі глыбокая Божая любоў да нас. Езус на крыжы цалкам аддаў сябе, каб даказаць сваю любоў да чалавека, і штодзень працягвае гэта рабіць у ахвяры св. Імшы.*

*Так, Езус аддае нам сваё сэрца кожны раз, калі прыступаем да св. Камуніі, і адзінае разумнае, што можам зрабіць, – аддаць Яму сваё сэрца ўзамен. Адным з прыгожых спосабаў для гэтага з'яўляецца прысвячэнне сябе Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса. Акт асабістага прысвячэння можна знайсці амаль ва ўсіх малітоўніках, а таксама ў інтэрнэце. Застаецца толькі набожна прамовіць і з усіх сіл старацца жыць згодна з яго зместам.*

## 2. ІНТРАНІЗАЦЫЯ

*Важным аспектам прысвячэння Найсвяцейшаму Сэрцу з'яўляецца прызнанне і падпарадкаванне аўтарытэту Езуса Хрыста ў кожным аспекце жыцця. Наш Збаўца – сапраўдны Цар; не толькі Цар Касцёла, але і нашых сем'яў, і ўсяго грамадства. Такім чынам, варта павесіць у сваім доме абраз Найсвяцейшага Сэрца, які будзе нагадваць, што Езус – наш Цар і што павінны любіць і служыць Яму ўсім сэрцам.*

## 3. УЗНАГАРОДЖАННЕ

*Імя Хрыста рэгулярна зневажаецца: не толькі ў прыватных размовах, але ўсё часцей у публічнай прасторы. Кожнае блюзнерства – новы ўдар у такое любячае нас Сэрца. Адным са спосабаў, якім можам праявіць любоў да Найсвяцейшага Сэрца, з'яўляецца кампенсацыя за абразы, накіраваныя на Езуса.*

*Сам Хрыстос пакінуў 3 спосабы ўзнагародзіць Яго Найсвяцейшае Сэрца. Збаўца прасіў аб частым прыняцці св. Камуніі з намерам кампенсацыі, асабліва ў першыя пятніцы месяца; аб малітоўным чуванні ноччу з чацвярга па пятніцу, каб суправаджаць Хрыста ў Яго смяротным смутку на Аліўнай гары і выпрошваць міласэрнасці для грэшнікаў; а таксама аб ушанаванні абраза Яго Сэрца.*



## 4. ПЕРШЫЯ ПЯТНІЦЫ

*Калі наш Пан перадаў вестку аб адданасці Найсвяцейшаму Сэрцу, прасіў аб удзеле ў Імшы, споведзі і прыняцці Яго ў Эўхарыстыі на працягу 9-ці чарговых першых пятніц месяца. Гэтая адданасць важная, таму што памятаем Мукі і смерць нашага Пана ў пятніцу. Перш за ўсё, гэта навэнна, якая нагадвае пра любоў Езуса да чалавека і выхоўвае ў нас жаданне пераймаць Яго ахвярную любоў.*

## 5. ЧАСТАЯ МАЛІТВА

*Малітва – гэта дыханне душы і асноўны спосаб, дзякуючы якому мы расцём у любові да Бога і бліжняга. Часты зварот да Найсвяцейшага Сэрца з'яўляецца выдатным спосабам маліцца, таму што гэта апэль да любові і міласэрнасці Езуса. Малітва да Найсвяцейшага Сэрца можа быць доўгай, як навэнна ці літанія, альбо простай, як спантанны заклік: "Найсвяцейшае Сэрца Езуса, змілуйся над намі".*

## 6. ПЕРАЙМАННЕ

*Адданасць Найсвяцейшаму Сэрцу – гэта заахвочванне да пераймання. Мы можам прамовіць усе неабходныя малітвы і нават добрасумленна практыкаваць першыя пятніцы месяца, але калі не пераймаем ахвярную любоў Езуса, то на самой справе не адданыя Яго Сэрцу. Усё пачынаецца з адказу ўзаемнасцю на любоў Хрыста і гатоўнасці на ахвяру за Яго, але ўключае ў сябе таксама любоў да тых, каго сустракаем кожны дзень, у тым ліку да людзей, якія нам асабліва не падабаюцца. Гэта азначае любіць і дараваць ворагам і праследавацелям.*

## 7. МІСІЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

*З 6-ым пунктам, перадачай любові іншым людзям, звязаны 7-мы – дзяленне верай з тымі, хто мог ад яе адысці, альбо з тымі, хто ніколі не меў магчымасці пачуць Добрую Навіну. У сучасным свеце таксама шмат людзей, якія чулі імя Хрыста, але не атрымалі ласку зразумець, хто Ён. Такім чынам, мы павінны ў імя Найсвяцейшага Сэрца сведчыць усяму свету, што Пан Езус – наш Цар, якому хочам аддана служыць. Гэта азначае ахвяраванне свайго жыцця іншым.*

*Апрацавала Ангеліна Марцішэўская*

---

### З КАТАЛІЦКІХ СМІ

**Aleteia**

#### *За ўвесь свет*

***Амерыканскі і мексіканскі акцёр, музыкант і кінапрадзюсар Эдуарда Верастэгі моліцца Ружанцам за спыненне пандэміі каранавіруса.***

*Кожны дзень у 13.00 па мексіканскім часе вядомы дзеяч распачынае ў інтэрнэце трансляцыю сваёй малітвы дома перад абразом Маці Божай. Да яго далучаюцца людзі з розных краін. Гэта не толькі католікі, але і вернікі іншых хрысціянскіх канфесій, габрэі і ўсе людзі добрай волі.*

*Эдуарда паставіў сабе за мэту сабраць як мінімум 50 тыс. чалавек, каб маліцца на ружанцы ў свята Маці Божай Фацімскай. У выніку маліліся больш за 200 тыс. Супольныя малітвы працягваюцца. Да іх можа далучыцца любы жадаючы.*

**eKAI.pl**

#### *Акт вандалізму*

***Невядомыя дагэтуль злачынцы перакулілі 10-метровы крыж вагой у тону, усталяваны на вяршыні гары Сэнт-Луп (Францыя).***

*Паводле інфармацыі мясцовай жандармерыі, вандалы, верагодна, выкарыстоўвалі дрыль, якім скінулі вялікую металічную структуру. На абрубку вышынёй 1 метр яны напісалі аэразолем па-французску "Свецкі пік" і "Ерэтыкі" і па-англійску "Сіла ведзьмы", што можа быць спасылкай на паганскую сімволіку.*

*Пашкоджаны крыж ужо станавіўся ахвярай вандалізму ў 1989 годзе (але тады ён не быў перавернуты). І ўлады, і жыхары гарантуюць, што крыж зноў будзе ўстаноўлены на сваім месцы.*

**niedziela.pl**

#### *Выратавальная акцыя*

***Мільёны людзей пацярпелі ў выніку маштабнага цыклона, які абрынуўся на 2 штаты на ўсходзе Індыі і частку Бангладэш.***

*Разбурэнні велізарныя. Шмат людзей эвакуіраваны. Многія адмаўляюцца ад прытулкаў, падрыхтаваных на выпадак стыхійных бедстваў, паколькі яны ў цяперашні час выкарыстоўваюцца ў якасці каранцінных цэнтраў у сувязі з каранавірусам.*

*Мацней за ўсё цыклон закрануў самых бедных. У акцыю дапамогі ўключылася "Caritas Internationalis", якая дастаўляе патрабуючым ежу, ваду і неабходныя дэзінфіцыйныя сродкі.*




### Як удзельнічаць у Імшы анлайн?

*Удзел у св. Імшы праз анлайн-трансляцыю не з'яўляецца альтэрнатыўнай формай ці рытуалам літургіі Касцёла, але вымушанай мерай і дапамогай, якая ў дадзеных абставінах дазваляе вернікам падтрымліваць духоўнае жыццё і лучнасць з супольнасцю Касцёла. Хоць фізічна мы не прысутнічаем у святыні, аднак духоўна злучаемся з тым, што там адбываецца.*

*Варта ўдзельнічаць у св. Імшы ў прамым эфіры, а не праглядаць яе ў запісе. На шчасце, сёння можам знайсці трансляцыі ў розныя гадзіны дня. Як у касцёл стараемся прыйсці загадзя, каб падрыхтавацца да літургіі, так і дома не ўскокваем хуценька да манітора, але раней плануем адпаведную гадзіну. З павагі да Хрыста і літургіі Касцёла стараемся адпаведна апрануцца.*

*Па магчымасці, неабходна ўдзельнічаць у св. Імшы ўсім разам, дапамагчы арганізаваць прагляд старэйшым і хворым членам сям'і і патлумачыць дзецям, што зараз будзе адбывацца і чаму молімся дома, а таксама што гэта не час для забавы. Трэба змясціць тэхнічныя сродкі прагляду так, каб яны былі бачныя старэйшым і хворым, якія самі не могуць устаць з ложка.*

*Належыць максімальна адкласці на пазней усе іншыя справы. Не выходзім зрабіць гарбату падчас казання і не праглядаем навіны падчас удзялення Камуніі. Не будзе годным удзелам "слуханне Імшы" тады, калі гатуем вячэру. Не зашкодзіць выключыць ці адкласці ўбок гаджэты. Стараемся пазбягаць размоў паміж сабой, каментарыяў. Трэба памятаць, што збіраемся перад экранам не для прагляду нейкай тэлеперадачы, але каб духоўна злучыцца з Найсвяцейшай Ахвярай, якая адбываецца ў святыні.*

*Не будзе годным удзел у св. Імшы лежачы на канапе альбо нават седзячы ў крэсле. Вядома, не паставім дома кленчнік і не пабудуем лаўкі і канфесіянал, але варта падрыхтаваць месца так, каб гэта спрыяла больш сур'ёзнаму і глыбокаму перажыванню літургіі. Прыгожым жэстам будзе паставіць побач з экранам крыж і свечку. Гэта не абавязковая ўмова для важнасці св. Імшы, але цудоўны знак, які крыху наблізіць да нас атмасферу Эўхарыстыі.*

*Вядома, пры такім удзеле ў Ахвяры Хрыста немагчыма будзе спажыць Яго Цела. На шчасце, Касцёл пакінуў вернікам магчымасць карыстання з духоўнай Камуніі. У нас павінна нарадзіцца туга па прыняцці Цела Хрыста і глыбокае жаданне і пастанова прыняць Яго, як толькі дазволяць абставіны.*

*Вельмі добра памаліцца разам перад пачаткам і пасля заканчэння трансляцыі св. Імшы. Напрыканцы стараемся пэўны час трываць у цішыні, дзякуючы Богу за шматлікія ласкі, якімі Ён адорвае кожнага з нас.*

*А. Канстанцін Анашка MIC*
***Паводле catholic-zhodzina.by***



*З Богам праз штодзённасць*

# Распазнаванне: шлях да свабоды

Выходнай кропкай для нашага вандравання з Богам праз штодзённасць (у адпаведнасці з назвай рубрыкі) з'явілася тэма тугі і прагнення чалавечага сэрца, якое шукае Бога. З наталеннем гэтай смагі былі звязаны разважанні аб розных формах малітвы, паглыбленне ў адметнасці духоўнага досведу некаторых вялікіх святых. Аднак эпітэты, якія звычайна дадаюцца да пастацей святых, каб выказаць сваю павагу і любоў, маюць і адваротны бок: яны аддаляюць ад нашага досведу, узносяць на п'едэстал пашаны і тым самым "прыбіраюць" з вачэй. Прыклады іх духоўнага змагання застаюцца дзівоснымі, нагадваючы высокія ідэалы. Тады як наша духоўнае жыццё выглядае зусім іншым. Выглядае ці насамрэч з'яўляецца? Мы рухаемся ці стаім на месцы? Шукаем Бога ці ўжо знайшлі сабе зручную дыстанцыю да Яго? Што калі Бог выйшаў шукаць і кліча, але мы не пазнаём Яго голас?

Сэрца чалавека (калі пад сэрцам разумець існоту яго асабовасці) неспакойнае, як заўважыў яшчэ св. Аўгусцін у V стагоддзі: "Ты нас стварыў для сябе, і неспакойнае сэрца нашае, пакуль не знойдзе спакой у Табе". Няма спакою ад думак, надзей, няясных пачуццяў, трывог, жаданняў, страхаў... Адны з іх сапраўды кіруюць да Бога, але іншыя знеахвочваюць увогуле звяртацца на Яго ўвагу. І хоць некаторыя паходзяць ад нас саміх, кожнаму даводзіцца сутыкацца з уплывамі Божага духа і злога духа ("ворага чалавечага роду"), якія, несумненна, маюць супрацьлеглыя мэты адносна людскіх лёсаў. Сэрца ў сваёй глыбіні застанецца таямніцай, непадуладнай нашаму даследаванню. Але гэтыя разнастайныя ўплывы – назавём іх "духоўныя рухі" – маюць пэўныя характэрныя рысы, якія можна навучыцца заўважаць, распазнаваць крыніцу і ісці за натхненнем, якое паходзіць ад Бога.

На працягу стагоддзяў многія святыя дапамагалі веруючым разумець і адпаведным чынам рэагаваць на тое, што адбываецца ў іх сэрцах. Сярод святых выразна вылучаецца Ігнацый Лаёла (1491–1556), які сфармуляваў правілы распазнавання духаў у сваёй кнізе "Духоўныя практыкаванні". Яны ўзніклі як плён яго ўласнага досведу, але выкладзены для ўсіх, хто шукае Пана.

Св. Ігнацыя можна назваць, хутчэй, майстрам сцісласці, чым яснасці. Толькі праз разуменне духа св. Ігнацыя, які прагнуў усё больш пазнаваць Хрыста, усё мацней любіць Яго і ісці за Ім больш аддана, і праз разважнае прачытанне тэксту, можна адкрыць духоўную глыбіню гэтых правіл. Асноўным іх матывам з'яўляецца вызваленне, а менавіта вызваленне чалавека ад прыгнёту расчаравання і падману ў духоўным жыцці. Св. Ігнацый даў незвычайны рэсурс для пераадолення такіх важкіх перашкод на шляху ўзрастання, як разгубленасць, страх, безнадзейнасць і трывожнасць. Цімаці Галагер OMV у сваёй кнізе "Распазнаванне духаў" піша: "Ігнацый заўважыў, што калі мы імкнёмся прыняць Божую любоў і спаўняць Яго волю з усёй праўдзівасцю нашай чалавечай натуры, сустрэнемся з чымсьці варожым гэтаму пошуку; мы сутыкнёмся з ворагам".

Варта адзначыць, што ў хрысціянскай традыцыі ёсць распазнаванне не толькі духаў, але і знакаў часу, шляхоў дзейнасці, асабістай і супольнаснай харызмы, пакліканняў. Гэтыя пошукі аб'ядноўвае жаданне пазнаць Божую волю і адказаць на яе. У невялікім цыкле на працягу некалькіх наступных артыкулаў мы засярodзімся толькі на распазнаванні духаў, разуметым як адрозніванне (што ад Бога, а што не) унутраных рухаў сэрца, і на спосабах рэагавання на іх у штодзённым духоўным вопыце чалавека. Класічны аўтар XVIII стагоддзя па распазнаванні Джавані Батыста Скарамелі SJ пісаў: "Пад «духам» мы разумеем імпульс, рух або ўнутраную схільнасць нашай душы да нечага канкрэтнага". Іншымі словамі, тыя афектыўныя памкненні (радасць, смутак, надзею, страх, спакой і падобныя пачуцці) разам са звязанымі з імі думкамі, якія ўплываюць на нашу духоўную рэчаіснасць і жыццё веры.

Самі правілы св. Ігнацый найперш прызначыў тым, хто праводзіць рэкалекцыі, г. зн. рэкалекцыяністам, якія павінны растлумачыць сутнасць духоўных практыкаванняў удзельнікам у адпаведнасці з іх унутранымі патрэбамі. Затым, на думку святога, вернік з дапамогай кіраўніка будзе развіваць асабістую здольнасць да прымянення правіл на ўласным досведзе, і гэтая здольнасць застанецца ў яго і пасля заканчэння рэкалекцый.

Папа Францішак прысвяціў распазнаванню асобны раздзел адгартацыі "Gaudete et exsultate". "Трэба заўсёды памятаць, што распазнаванне – гэта ласка. Хоць яно ахоплівае розум і разважлівасць, аднак пераўзыходзіць іх, таму што дапамагае заўважыць таямніцы адзінага і непаўторнага плана, які Бог мае для кожнага і які рэалізуецца ў самых разнастайных кантэкстах і межах" (GE, 170).

Збору правіл св. Ігнацый даў вымоўнае акрэсленне: "Правілы для адчування і разумення ў нейкай ступені розных рухаў, выкліканых у душы; добрых, каб іх прыняць, і благіх, каб іх адкінуць. Гэтыя правілы найлепш адпавядаюць першаму тыдню [Духоўных практыкаванняў]". Запомнім 3 ключавыя крокі: адчуць, зразумець і дзейнічаць (прыняць або адкінуць). Не толькі крыніцы рухаў маюць значэнне, але і тое, у якіх напрамках яны нас вядуць, таму што мэтай не з'яўляецца распазнаванне само па сабе, але ўсё больш дасканалае і поўнае наследаванне Хрыста ва ўсім.

Першы тыдзень Духоўных практыкаванняў св. Ігнацый адкрыў невялікім тэкстам пад назвай "Пачатак і аснова" (або "Фундамент"). Яго часам параўноўваюць з палярнай зоркай, якую раней шукалі мараходы, каб упэўніцца ў правільным курсе карабля, асабліва пасля непагадзі. Даваручы мудрасці святога, разгортванне тэмы распазнавання мы таксама распачнём гэтым тэкстам, які прапануе паразважаць пра сябе і створаны свет, мэту і сродкі, Божы план, падрыхтаваны для нас.

**Пачатак і аснова**

**"Чалавек створаны, каб хваліць Бога, нашага Пана, шанаваць Яго і служыць Яму, і праз гэта збавіць сваю душу. Усё іншае на зямлі створана дзеля чалавека, каб дапамагчы яму дасягнуць мэты, для якой створаны. Адсюль вынікае, што чалавек павінен у той меры карыстацца ўсім створаным, у якой яно дапамагае яму ў дасягненні мэты, і ў той меры павінен пазбывацца яго, у якой яно ў дасягненні мэты яму перашкаджае. Таму нам трэба стаць бясстраснымі да ўсяго створанага, у чым толькі тое дазволена нашай свабоднай волі і не забаронена ёй; каб не жадалі больш здароўя, чым хваробы, багацця, чым беднасці, павагі, чым пагарды, доўгага жыцця, чым кароткага, і падобным чынам ва ўсім астатнім жадалі і выбіралі толькі тое, што найлепш вядзе да мэты, для якой мы створаны".**

*Тэрэса Клімовіч*




***Марцін Лудзіч**, алюмн 1 курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі Божага Цела ў Крамяніцы*

# Стаць пастырам на ўзор Хрыста!

**Езус аддаў жыццё за людзей, каб кожная авечка была збаўлена. Таму святар павінен пераймаць Настаўніка, які ніколі не пакіне свой статак без нагляду.**

### ПРА ПАКЛІКАННЕ

Сваё пакліканне я адкрываў паступова. Разважаў пра гэта заўсёды, аднак сур'ёзна пачаў задумвацца ў старэйшых класах. Непакоіла, ці будзе гэта верны шлях? Аднак думкі прыходзілі і пакідалі, але жаданне крочыць за Хрыстом не знікала. Таму, скончыўшы сярэднюю школу, я вырашыў пайсці шляхам, да якога заклікае Пан.

Значную ролю ў распазнанні майго паклікання адыгралі родныя і блізкія, якія былі прыкладам, заўсёды дапамагалі і падтрымлівалі. Вялікае значэнне мела таксама малітва, асаблівым чынам сямейная малітва разам з бацькамі.

### ПРА СЕМІНАРЫЮ

Семінарыя – альбо "alma mater", як яе яшчэ называюць клерыкі, што азначае "кормячая маці" – для мяне з'яўляецца месцам духоўнага станаўлення, падрыхтоўкі да будучага служэння Богу і людзям. А для гэтага станаўлення вельмі важнае месца павінна займаць малітва ў розных яе праявах і інтэлектуальная падкаванасць.

### ПРА ЦЯЖКАСЦІ

Жыццёвы шлях алюмна нагадвае мне ўзыходжанне на гару, бо калі ўзыходзіш, то толькі маленькімі крокамі, якія не заўсёды з'яўляюцца лёгкімі. І мы, клерыкі, павінны змагацца з цяжкасцямі, бо, нявырашаныя, яны могуць потым выплысці на паверхню і стаць перашкодай да нечага.

### ПРА СВЯТАРСТВА

Кожны святар, калі прымае сакрамант, які быў устаноўлены падчас апошняй вячэры, становіцца "alter Christus", што азначае "другі Хыстос". Пасля сябе Езус пакідае нам святароў, якія вучаць, дапамагаюць і вядуць Божы народ у Нябеснае Валадарства, дзе чакае Стварыцель. Як напісана ў Святым Пісанні, "бо вусны святара павінны захоўваць веды, і закону шукаюць ад вуснаў яго, бо ён пасланец Бога" (параўн. Мал 2, 7).

### ДУМАЮ, ШТО...

У цяперашні час многія маладыя людзі па розных прычынах не могуць пачуць голас Бога ў сваім сэрцы. Альбо чуюць яго, але не надаюць належнай увагі, бо не вераць таму, што Бог можа іх паклікаць. Ці нешта іншае перашкаджае... Аднак Усемагутны кліча і чакае тых, хто не чуе Яго, бо, як напісана, "калі ж Бог, які выбраў мяне ад улоння маёй маці і паклікаў сваёй ласкаю, пажадаў аб'явіць ува мне свайго Сына, каб я прапаведаваў Яго сярод язычнікаў, я не пачаў адразу раіцца з целам і крывёю і не пайшоў у Ерусалім да Апосталаў, маіх папярэднікаў, а пайшоў у Арабію і зноў вярнуўся ў Дамаск" (Гал 1, 15–17). Мы павінны давяраць шэпту Найвышэйшага, які запрашае абвяшчаць аб Яго Валадарстве ўсім людзям свету.

НАВІНЫ



## ГАДАВІНА САКРЫ ПАСТЫРА ДЫЯЦЭЗІІ

У 29-ую гадавіну біскупскай сакры біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў дыяцэзіяльны санктуарый Пана Езуса Журботнага ў Росі (дэканат Ваўкавыск). Іерарх узначаліў у святыні св. Імшу падзякі за ласкі, атрыманыя ад Бога на працягу свайго біскупскага служэння ў дыяцэзіі, а таксама за ўсіх людзей, якіх Божы Провід паставіў на яго шляху.

Падчас Эўхарыстыі ардынарый маліўся за тых, хто ўтварае Касцёл на Гродзеншчыне, уключаючы святароў, манаскіх сясцёр, семінарыстаў і вернікаў дыяцэзіі. Біскуп узгадаў у гэты дзень таксама тых, хто з-за пандэміі каранавіруса змагаецца з хваробай і цярпеннем. Атачыў малітвай медперсанал, які аказвае неабходную дапамогу хворым.

Папа Ян Павел ІІ прызначыў кс. Аляксандра Кашкевіча першым біскупам новаўтворанай Гродзенскай дыяцэзіі 13 красавіка 1991 года. Біскупскае пасвячэнне адбылося 23 мая 1991 года ў гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя.



НАМІНАЦЫІ

Кс. Алег Жураўскі вызвалены ад абавязкаў пробашча парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні і прызначаны пробашчам парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Наваельні, а таксама адміністратарам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Стараельні (дэканат Дзятлава).

Кс. Павел Скуба вызвалены ад абавязкаў вікарыя парафіі Святой Сям'і ў Лідзе і прызначаны пробашчам парафіі свсв. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне, а таксама адміністратарам парафіі Божага Цела ў Дварцы (дэканат Дзятлава).

АДНЫМ РАДКОМ

• Семінарыст Віктар Рушлевіч з Вавёркі (дэканат Ліда) прыняў пасвячэнне дыяканату ў Ордэне рэгулярных латэранскіх канонікаў. • Адарацыя на працягу дня ў інтэнцыі спынення эпідэміі адбылася ў смаргонскай парафіі св. Міхала Арханёла. • А. Аляксандр Махнач SP, пробашч парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе, аб'ехаў тэрыторыю парафіі, блаславіўшы яе абразом св. Барбары. • Вернікі смаргонскай парафіі св. Яна Паўла ІІ перадалі ў мясцовы шпіталь санітарна-гігіенічныя сродкі аховы. • Дк. Віталь Венцкевіч SCJ, які паходзіць з гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці, прыняў святарскае пасвячэнне ў Стадніках (Польшча). • У гродзенскай катэдры завяршаецца рэстаўрацыя алтара XVIII стагоддзя. • 80-ую гадавіну мучаніцкай смерці былога пробашча кс. Вацлава Радзько адзначылі ў Трабах (дэканат Іўе).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## Календар падзей

***31 мая***
*Урачыстасць Спаслання Святога Духа. Заканчэнне велікоднага перыяду.*

***1 чэрвеня***
*Свята Найсвяцейшай Панны Марыі Маці Касцёла. Сусветны дзень дзіцяці. Молімся за дзяцей і клапоцімся аб іх рэлігійным выхаванні. Распачацце чэрвеньскага набажэнства.*

***3 чэрвеня***
*Успамін св. Караля Луангі і паплечнікаў, мучанікаў.*

***4 чэрвеня***
*Свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.*

***5 чэрвеня***
*Успамін св. Баніфацыя, біскупа і мучаніка.*

***7 чэрвеня***
*Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы. Дыяцэзіяльны дзень бацькі. Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых бацькоў.*

***8 чэрвеня***
*Успамін св. каралевы Ядзвігі.*

***11 чэрвеня***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста (Божае Цела).*

***12 чэрвеня***
*Успамін бл. Генрыха Глябовіча, святара, бл. Мар'яны Бярнацкай і мучанікаў ІІ Сусветнай вайны.*

***13 чэрвеня***
*Успамін св. Антонія Падуанскага, святара і доктара Касцёла.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*Аб апостальскай узаемнай гнутасці свецкіх асоб у жыцці парафіі і дыяцэзіі. У інтэнцыі хворых і церпячых, а таксама тых, хто аказвае апостальскую дапамогу сваім душпастырам. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Інфармацыя для абітурыентаў!

**Гродзенскі тэалагічны каледж імя св. Казіміра аб'яўляе набор студэнтаў на 2020/2021 навучальны год.**

Адной з галоўных мэт навучальнай установы з'яўляецца ўмацаванне веры, паглыбленне рэлігійных ведаў і падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці. Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады (з верасня па чэрвень). Форма навучання – завочная. Заняткі праводзяцца ў 2-ую і 4-ую суботу і нядзелю месяца. Пасля заканчэння каледжа выпускнікі могуць працягваць навучанне ў каталіцкіх ВНУ, атрымаць ступень магістра або доктара.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**
- заява (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта (с. 31–33);
- копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі;
- 3 фотаздымкі (3х4);
- медыцынская даведка;
- анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).

Перад падачай дакументаў абавязковы папярэдні запіс, які адбываецца па тэлефонах (8 029) 887-71-05, (8 0152) 75-33-08 або праз e-mail: kaledz.tealagiczny@gmail.com. Дакументы прымаюцца асабіста з 1 чэрвеня да 21 жніўня кожны аўторак з 10.00 да 12.00 у біскупскай курыі (г. Гродна, вул. К. Маркса, 4).

**Уступныя іспыты:**
- экзамен з катэхізіса і агульных ведаў пра Каталіцкі Касцёл;
- кваліфікацыйная размова.

***Уступны іспыт адбудзецца 25 жніўня ў 11.00.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**1 чэрвеня 1964 г.** – кс. Францішак Кафарскі, *проб. Іўе;*
**4 чэрвеня 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача;*
**6 чэрвеня 2015 г.** – кс. Ян Занеўскі, *проб. Квасоўка;*
**8 чэрвеня 1981 г.** – кс. Юзаф-Мар'ян Масангер SJ, *проб. Солы;*
**10 чэрвеня 1998 г.** – кс. прэлат Міхал Варанецкі СМ, *ген. вік., Гродзенская ВДС.*

# НОВЫ НУНЦЫЙ У БЕЛАРУСІ!



***Святы Айцец Францішак прызначыў Апостальскім Нунцыем у Беларусі харвацкага іерарха, арцыбіскупа-наміната Антэ Ёзіча. Ён зменіць на пасадзе арцыбіскупа Габара Пінтэра з Венгерыі, які быў накіраваны на дыпламатычную службу ў Гандурас.***

Абп. Антэ Ёзіч нарадзіўся 16 студзеня 1967 года ў горадзе Трыль. Святарскае пасвячэнне атрымаў 28 чэрвеня 1992 года ў Сплітска-Макарскай архідыяцэзіі. У 1995 годзе пачаў рыхтавацца да дыпламатычнай службы ў Папскай касцёльнай акадэміі. З 1999 года працаваў у Апостальскай нунцыятуры ў Індыі. Затым, у 2003–2009 гадах, быў сакратаром нунцыятуры ў Расіі. У 2009 годзе стаў дарадцам нунцыятуры на Філіпінах.

2 лютага 2019 года прызначаны Апостальскім нунцыем у Кот-д'Івуары і тытулярным арцыбіскупам Цысы. Біскупскае пасвячэнне яму павінен быў удзяліць 1 мая 2019 года кардынал П'етра Паралін. Аднак 7 красавіка 2019 года святар трапіў у аўтамабільную аварыю, пасля якой апынуўся ў бальніцы ў крытычным стане.

22 студзеня бягучага года дыпламатычны прадстаўнік Святога Пасада сустрэўся з папам Францішкам. Яго біскупская сакра мела адбыцца 21 сакавіка ў базіліцы св. Пятра, аднак была перанесена з прычыны пандэміі COVID-19.

Нагадаем, арцыбіскуп-намінант Ёзіч стаў другім харвацкім іерархам на пасадзе Апостальскага нунцыя ў Беларусі. У 2004–2011 гадах дыпламатычнае прадстаўніцтва Святога Пасада ў краіне ўзначальваў арцыбіскуп Марцін Відавіч, які таксама належаў да Сплітска-Макарскай архідыяцэзіі.

Як паведаміў парталу Catholic.by Часовы паверраны ў справах Святога Пасада ў Рэспубліцы Беларусь кс. Махэр Шаммас, новапрызначаны Апостальскі нунцый валодае, акрамя роднай харвацкай, таксама італьянскай, англійскай, іспанскай, французскай, партугальскай, нямецкай, кітайскай, рускай і польскай мовамі.

*Паводле vaticannews.va*

## АПОСТАЛЬСКАЯ НУНЦЫЯТУРА Ў БЕЛАРУСІ

**Кс. абп Габрыэль Мантальва Ігера**
*1993–1994 гг.*

**Кс. абп Агосціна Маркета**
*1994–1996 гг.*

**Кс. абп Дамінік Грушоўскі**
*1996–2001 гг.*

**Кс. абп Іван Юркавіч**
*2001–2004 гг.*

**Кс. абп Марцін Відавіч**
*2004–2011 гг.*

**Кс. абп Клаўдыа Гуджэроці**
*2011–2015 гг.*

**Кс. абп Габар Пінтэр**
*2016–2019 гг.*

**Кс. абп Антэ Ёдзіч**
*з 2020 г.*

Дзіцячы куточак

# Прыйдзі, Дух Святы!

*Прывітанне, Маленькі Чытач!*

*Ты, напэўна, ужо ведаеш альбо нешта чуў пра Святога Духа. Прыйшоў час пазнаёміцца з Ім бліжэй.*

*Святы Дух – хтосьці незразумелы для нашага розуму. Езус параўнаў Яго ўздзеянне на сэрца чалавека з лёгкім подыхам ветру: "Вецер вее там, дзе хоча, і голас яго чуеш, але не ведаеш, адкуль прыходзіць і куды ідзе. Так ёсць з кожным, хто нарадзіўся з Духа" (Ян 3, 8).*

*Ці бачыў Ты хвалі на моры? Ці бачыў, як сцяг лунае на флагштоку? Ці бачыў, як калыхаюцца лісточкі дрэва? Вядома ж, так. Менавіта вецер стварае хвалі, развейвае сцяг, калыхае лісце. А ці бачыў Ты сам вецер? Не. Мы толькі адчуваем яго прысутнасць. Часам гэта лёгкі ветрык, а часам рэзкі і моцны. Мы бачым яго ўздзеянне, але не бачым самога. Так і Святы Дух. Ён дзьме ў наша сэрца і гаворыць: "Упусці мяне, каб Я мог ачысціць, абмыць цябе, каб ты мог нарадзіцца звыш".*

*Святы Дух – гэта не нейкая невыразная сіла, якая носіцца ў паветры вакол зямнога шара. Ён з'яўляецца рэальнай Асобай, мае эмоцыі. Святы Дух – гэта Бог. Ён прысутнічае ўсюды ў адзін і той жа час.*

*Найлепш можа раскрыць і паказаць нам, хто ж такі Святы Дух, Біблія. У Старым Запавеце пра Яго не вельмі шмат гаворыцца, у Новым – згадваецца мноства раз. Езус сказаў вучням, што пасля смерці і ўваскрасення вернецца на Нябёсы, але не пакіне сваіх паслядоўнікаў адных. Паведаміў, што прыйдзе Дух, які будзе дапамагаць ім.*

*Вечарам таго дня, калі ўваскрос, Езус, звяртаючыся да апосталаў, сказаў: "Прыміце Святога Духа" (Ян 20, 22). Гэта азначае, што Бог нам дае свайго Духа як дар, падарунак, і просіць, каб прынялі Яго, не адмаўляліся, і каб перадавалі іншым. У гэтым заключаецца жыццё хрысціяніна. Мы быццам з'яўляемся інструментам у Божых руках.*

*Людзі маюць у сваім распараджэнні розныя матэрыяльныя і інтэлектуальныя дары, якія яны пастаянна спрабуюць памнажаць і развіваць. Аднак часам памнажэнне багаццяў адными людзьмі выклікае збядненне іншых. Некаторыя дасягненні нават становяцца пагрозай для свету. Каб не згубіцца пры выкарыстанні зямных дабротаў, чалавеку патрэбны даброты духоўныя, якіх свет ніколі не зможа яму даць, таму што паходзяць ад Бога.*

*Дары Святога Духа ажыўляюць нашы прыродныя багацці і накіроўваюць іх на службу ўсёй чалавечай супольнасці: Касцёлу і свету. Чым больш мы будзем адкрывацца на гэтыя дары, чым больш ахвотна будзем іх прымаць, тым больш багатыя будуць Яго плады ў нашым жыцці і тым больш плённа будзем дапамагаць свету ўзрастаць у любові. Аб гэтым сведчыць наступнае апавяданне.*

***Аднойчы селянін па імені Ян араў поле і знайшоў жалезнае кола, да якога было прычэплена нешта цяжкае. Ён прасунуў вяроўку праз кола, запрог вала і выцягнуў з зямлі бронзавы звон. На поле хутка збегліся людзі. Усе дзівіліся знаходцы, і ніхто не мог растлумачыць, адкуль яна. "Гэта, напэўна, цуд", – вырашылі сяляне, таму пастанавілі зрабіць для звана драўляную званіцу.***

***Звон гучаў дванаццаць разоў на год, у кожнае вялікае свята. Яго чулі ва ўсіх навакольных вёсках. І той, хто чуў, станавіўся лепшым чалавекам: хто хваляваўся – забываўся пра турботы, хто застаўся адзін – не адчуваў адзіноты, хворыя лягчэй перажывалі пакуты, сумныя падбадзёрваліся, бедныя адчувалі сябе багатымі, а багатыя ўспаміналі пра бедных і дапамагалі ім. Гэты звон меў такую незвычайную моц.***

***Пра цудоўны звон пачуў злы цар. "Такая рэч не для простых людзей, – сказаў ён. – Я забяру звон сабе". Цар загадаў салдатам загрузіць яго на воз. Аднак валы не змаглі нават зварухнуцца з месца. Тады разззлаваны цар загадаў разбіць звон на тысячу кавалкаў: "Калі ён не хоча званіць для мяне, то ўжо ніколі больш не будзе званіць ні для кога!". Асколкі разбітага звана пакрылі ўсё поле. А злы цар са сваімі людзьмі паехаў прэч.***

***Наступнай раніцай Ян выйшаў у поле. Ён хацеў закапаць кавалкі звана ў зямлю, з якой той узяўся. Селянін разлічваў знайсці тысячу асколкаў. Але што ён убачыў? Поле было ўсыпана мноствам маленькіх званочкаў, ідэальна падобных адзін на аднаго. Мужчына сабраў іх і раздаў людзям. Цяпер ва ўсіх была радасць: кожны атрымаў па цудоўнаму званочку.***

*Дарагі Маленькі Чытач! Кожны звон павінен мець сэрца, каб званіць. Чалавек павінен мець дух, каб мець жыццё ў поўні. Святы Дух нябачны, але Ён дзейнічае ў нашым сэрцы, дапамагае ў розных сітуацыях, каб былі добрымі і памяталі пра сталую прысутнасць Бога, дазваляе стаць часткай Божай сям'і, вызваляе душу ад страху, суцяшае, дае духоўныя дары. Гэта вельмі добра: мець Святога Духа. Таму трэба Яго заклікаць у малітве, каб безупынна сыходзіў на нас.*

**Заданне:** ***разам з бацькамі памаліся да Святога Духа і паспрабуй распазнаць, якія дары Ён Табе ўдзяляе.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Галоўнаму Рэдактару Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды 10-ай гадавіны святаркіх пасвячэнняў жадаем апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа, сіл, каб весці Божы люд да Пана і абвяшчаць Добрую Навіну, здароўя, радасці і цудоўнага плёну на ніве Хрыста.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважаным Ксяндзам Яну Гавецкаму, Артуру Валчкевічу і Віталію Цыбульскаму**

з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем шмат радасці, здароўя, неаслабнага жару духа ў святарскай паслузе. Няхай Маці Божая заўсёды атуляе сваёй апекай. Імкніцеся за Панам з верай і надзеяй, а Вашы сэрцы няхай напаўняе любоў. Шчыра дзякуем за паслугу, малітву, дабрыню і клопат пра кожнага з нас.

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Шэмету**

з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем, каб Езус Хрыстус адорваў усімі ласкамі, а Маці Божая прытуляла да свайго мацярынскага сэрца, нястомна апекавалася і абараняла ад зла. Няхай душпастырская паслуга будзе напоўнена моцай і дарамі Святога Духа, а здароўе і цярплівасць ніколі Вас не пакідаюць.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**

з нагоды 15-ай гадавіны святарскай паслугі жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення, шчасця, аптымізму і добразычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух асвячае Вашу штодзённасць, а Маці Божая дадае сіл, энергіі, цярплівасці і стойкасці. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне ад выбару такой адказнай жыццёвай дарогі.

*Ю. Баркова і М. Чайкоўская*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**

з нагоды 58-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаю, каб Пан дадаваў моцы, Святы Дух адорваў мудрасцю і спакоем, а Маці Божая і Анёл-ахоўнік заўсёды абаранялі. Выражаю пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на ніве Пана, мудрыя навукі, імкненне набліжаць нас да Бога. Прашу Усемагутнага аб патрэбных ласках для Вас.

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды 10-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні. Няхай шчасце спрыяе, анёл адорвае любоўю, а здароўе не падводзіць. Жадаем таксама душэўнага супакою, усмешкі на твары і традыцыйна – 100 гадоў.

*Былыя парафіяне са Мсцібава*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Севасцьяновічу**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем, каб на жыццёвым шляху Вам заўсёды спадарожнічала блізкасць Пана. Няхай Бог узнагародзіць моцным здароўем, усімі дарамі Святога Духа і радасцю ўваскрасення, а Маці Божая адорыць сваім цяплом. Няхай рытм Вашага сэрца будзе рытмам любові Езуса, каб надалей заставаліся добрым любячым пастырам і ішлі па дарозе да святасці. Дзякуем за сапраўдную любоў да Бога, за разуменне і падтрымку, за шчырае жаданне гаварыць пра Бога словам і сваімі ўчынкамі, а таксама за вялікую справу аднаўлення нашай святыні. Дзякуем Вашым бацькам, якія дазволілі Вам быць ксяндзом. Молімся аб моцы і здароўі на доўгія гады для Вашай мамы, а для бацькі – аб вечным супакоі ў Небе.

*Парафіяне з касцёла св. Мікалая ў Міры*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды 10-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і служэння ў нашай парафіі жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады. У Вашых вачах мы бачым любоў і дабрыню. Як знак Божай любові ўспрымаем тое, што дзякуючы Вашым намаганням маем магчымасць сустракацца з Панам Богам у адноўленым касцёле. Няхай Бог Айцец апекуецца Вамі кожны дзень.

*Вернікі з Казлоўшчыны*

**Паважаны Ксёндз Валянцін Хвядук!**

З нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячанняў жадаем Табе здароўя, радасці, душэўнага супакою, мужнасці і задавальнення ад святарскай паслугі. Няхай кожная хвіліна будзе напоўнена любоўю, а з твару не сыходзіць усмешка. Няхай Марыя вядзе Цябе найлепшай дарогай да святасці, а Езус апраменьвае сваім святлом кожны дзень.

*Родныя*

**Паважанаму Айцу Андрэю Врублеўскаму**

з нагоды 15-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, святла Святога Духа і сталай апекі Панны Марыі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а выконваемая паслуга прыносіць радасць і благаслаўлёны плён.

*Родныя і парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды дня нараджэння жадаем Божай міласэрнасці, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, ласкі прагнення Неба, душэўнага супакою, радасці, шчырых і зычлівых людзей побач. Сардэчна дзякуем Вам за ўсё!

*Вернікі з парафіі Імя НПМ, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Скубу**

з нагоды 4-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем шмат радасці, шчасця і здароўя. Няхай Маці Божая заўсёды Вамі апекуецца, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Благаслаўленне ад Усемагутнага, сілы ў выкананні штодзённых абавязкаў і шчодрага плёну на ніве Пана.

*Парафіяне з касцёла свсв. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем душэўнага супакою, радасці, сіл, моцнага здароўя, шчасця. Няхай Езус благаслаўляе на святарскім шляху, а Маці Божая атуляе мацярынскай любоўю. Дзякуем за нястомную працу, духоўную апеку, малітву і дабрыню.

*Вернікі з парафіі Адамавічы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, мноства Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці, а таксама шмат сіл, мудрасці і стойкасці, каб крочыць выбраным шляхам.

*Вернікі з касцёла св. Роха*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды 36-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў на чарговыя гады паслугі ў Касцёле і ў нашай парафіі. Дзякуем за штодзённы клопат і служэнне сярод нас.

*Вернікі з в. Галавенчыцы*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень душпастырскай службы. Няхай Хрыстос заўсёды будзе прыкладам і надзейным Праваднікам. Няхай у моцы Духа Божае слова даходзіць да нашых сэрцаў і змяняе іх. Дзякуем за штодзённы клопат, дабрыню, зычлівасць і адданасць.

*Вернікі з в. Буцілы*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю**

з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Панна Марыя разам з Сынам маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб Вы з радасцю служылі Богу і людзям.

*Вернікі з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Марціновічу**

з нагоды 10-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем шмат сіл, каб разам з намі будаваць той жывы Касцёл, якім усе мы з'яўляемся. Няхай абраны жыццёвы шлях ніколі не будзе цяжарам. Мы ўпэўнены, што з Божай дапамогай супольна пабудуем сваю святыню. Таму на распачатую місію жадаем патрэбнага здароўя, каб не стаміцца на гэтым благаслаўлёным шляху. Няхай Пан благаслаўляе і аберагае.

*Вернікі з парафіі бл. Мар'яны Бярнацкай, Гродна (Баранавічы-Ласосна)*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю Усемагутнага, а паслуга прыносіць радасць і благаслаўлёны плён.

*Члены руху "Маці ў малітве" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

ў сувязі са смерцю мамы перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай усемагутны Бог прыме яе душу ў сваё Валадарства.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

ў сувязі са смерцю мамы складаем шчырыя спачуванні і словы хрысціянскай падтрымкі. Яднаемся з Вамі ў малітве аб вечным супакоі для памерлай.

*Вернікі з капліцы Божай Міласэрнасці ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

ў сувязі са смерцю мамы перасылаем выразы спачування і жалю. Няхай душа памерлай адпачывае ў супакоі.

*Хор "Cantate Domino"*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2228; тыраж 4046; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная